Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЛОВА ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр., на 3 мес. — 4 зл., на паўгоду — 8 зл., на год — 15 зл., заграніцу ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 3 — Вільня, Серада 10-га кастрычніка 1928 г. — Год 1

## Воўчыя сьлёзы.

Нашы чытачы ўжо ведаюць, што на абшарах Зах. Беларусі створана г. зв. „рэгіянальнае кола адзінкі“, якое за гэта лета выпрацавала пэўную праграму „аздараўленьня Крэсаў Усходніх“. Як ведама, санацыя ў адным розьніцца ад папярэдніх эндэцкіх заправілаў, што эндэкі на нашых землях нішчылі спрытна ўсе праявы беларускага сьвядомага жыцьця, не ўдаючыся ў разбор справы, душылі неміласэрдна, як толькі маглі і дзе толькі маглі -- ўсякую волю да жыцьця беларускага насяленьня наагул, напоўнілі нашы землі хмарай асаднікаў і жорстка распраўляліся з „непакорнымі рабамі“. Санацыя, бачучы, што гэты спосаб нішчаньня ўсяго беларускага ня даў ніякіх вынікаў для стабілізацыі дзяржавы (бо аб гэтым, бязумоўна, толькі ідзе мова)—завялі іншы, хоць і вельмі стары, спосаб, спосаб—„divide et impera“ (дзялі і пануй). Яны падзялілі былых, здавалася, адналітых радыкалаў (ня кажам ужо аб згодніках) на надзейных і „вывротувцув“ і калі да апошніх пакінулі ўсю папярэднюю практыку, то другім перад вачыма снуюць павуценьне надзеі ці робяць ілюзіі „ў магчымасьці паразуменьня“, „у магчымасьці нейкай беларускай працы“. Не бяз увагі на гэтыя „надзейныя“ элемэнты яны паступова ўсоўваюць хоць навет неспракуджаных у сваей лёкайскай працы перад хлебадаўцамі, але ўжо залішне скампрамітаваных у вочах ня толькі беларускіх працоўных гушчаў, а навет і ў вочах інтэлігенцыі — Паўлюкевіча, Вярнікоўскага і Умястоўскага, „вынаходзяць“ і садзяць на іх месца дзікага нацыяналіста Янку Станкевіча (да якога прылучаюцца амбітныя пані), урэшце аж праз „блажэннага“ мітрапаліта Дзяніса ўцягваюць у свой круг Каўша і іншых, па чутках, перадаюць усім гэтым новым сваім служкам „круцёлку“ Т. Вярнікоўскага і г. д. Гэты-ж способ падзелу на надзейных і „выврaтувцув“ бачым у Т-ве Беларускай Школы, у Гімназіі і г. д.

Розьніца між эндэкамі і санатарамі распаўсюджваецца далей і на стварэньне падобных ілюзіяў і ў большых шырокіх колах беларускага народу. Калі мы раней чулі аб праекце Скульскага, што да зьнішчэньня праз 50 гадоў беларусаў зусім—дык цяпер мы бачым „позытыўную“ культурна-асьветную праграму ўспомненага „рэгіянальнага кола“, якая падзяліла Гімназіі на добрыя і злыя і вынікам якое (праграмы) стаўся факт зачыненьня Гімназіі ў Радашкавічах. Апрача таго, мы бачым „kółka rolnicze“, „kasy Stefczyka“, „kółka młodzieży“, „Domy Ludowe“, „Straży ogniowe“ і г. д. і г. д. Вось колькі „дабрадзействаў“!

---

У апошні час мы робімся сьведкамі новых „дабрадзействаў“. Скантатавана, што ў Заходняй Беларусі ў гэтым годзе стаўся факт вялікага недароду, даходзячага ў Віленскім ваяводзтве чуць не да катастрафальных разьмераў. І вось дзіўная рэч. „Адзінка“ пад кіраўніцтвам абшарнікаў і буйных прамыслоўцаў паліла сьлёзы над палажэньнем беларускага селяніна. Пішуцца артыкулы ў газэтах, выносяцца пастановы „рэгіянальнага кола“, падаюцца пэтыцыі да Ураду аб дапамозе і г. д. Проста як за паншчынай—толькі рабі і ні аб чым ня думай—ўсё дасьць пан—сьпявай песьні!

Можна падумаць, што дабрадзействы санацыі дайшлі да апошніх граніц і што мы толькі павінны багаслаўляць неба за добрых апякуноў. Але калі прыгледзімся да ўсіх гэтых нованабудаваных картачных дамкоў, то ўбачым, што яны пабудаваны далёка ня з тэй мэтай, каб нам дапамагаць, не гаворачы больш (за гэта канфіскуюць!). Гэта ўсё адносіцца да новых спосабаў, якія ўводзяцца цяпер у адрозьненьне ад былых эндэцкіх. Тое самае ў роўнай ступені трэба сказаць і аб плачу над неўраджаем. Мусім прыпомніць, што такія стыхійныя беды ў нас ня першы год. Вялікая частка насяленьня Заходняй Беларусі ў леташнім годзе, напр., перажыла вялікія навальніцы з градам, якія панішчылі пасевы. Тады, асабліва ў „валаданьнях“ „найлібэральнейшага“ Наваградзкага ваяводы п. Бэцковіча, таксама рассыпаліся дабрадзействы ў форме пазычак. А вось цяпер іх сьцягаюць назад і, як перадаюць, так неміласэрдна, што шмат каму з сялян галава закруцілася. Нашы карэспандэнцыі з вёскі як найбольш яскрава выяўляюць паказаныя „дабрадзействы“. Мы можам шмат чаго сказаць аб адваротным боку „добрадзействаў“ на прыкладах камасацыі, барацьбы паноў з сэрвітутамі, сваяроднай парцэляцыі і г. д., але і так на мясцох гэтыя „дабрадзействы“ залішне вядомыя, каб лішні раз падрабляць газэту пад канфіскату, пішучы аб іх. Гэтая горкая праўда рэжа занадта „дабрадзеям“ вочы.

Дык што й казаць—ня гледзячы на штучныя спосабы замазваньня вачэй рознымі абяцанкамі, якія нікога не забавязваюць—ідзе шпаркім тэмпам г. зв. полярызацыя сілаў, выкопваецца, што раз большая прорва між панамі і працоўнымі гушчамі, а гэта сьвечыць аб запраўднай цане „дабрадзействаў“.

Дык што такое сьлёзы адзінкі?

Проста скажам—*гэта воўчыя сьлёзы над авечай доляй*, гэта новы спосаб кіраваньня працоўнымі шляхам стварэньня пустых надзеяў, што да палепшаньня іх быту, гэта—турботы паноў над „занадта“ ўжо вялікай сьвядомасьцю народу з мэтай прыцягнуць сымпатыі на свой бок. А што да фактычнага палепшаньня, дык на тое-ж існуе вядомая пагаворка—„цацанка-абяцанка“...

Мы павінны вельмі задумацца над спосабам *дапамогі самім сабе*. А гэты спосаб ёсьць і мы аб ім заўсёды кажам.

*Будзем тварыць каапэратывы*! Ясна, што раптоўна мы не паможам гору ў даным выпадку. Але мы створым умовы для магчымасьці самадапамогі ў будучыні. Каапэратыўны апарат як раз у стане змогі дапамагчы гору ў такіх выпадках шляхам прывозу па танных цэнах збожжа з ураджайных мясцовасьцяў. Ясна, што мы маем права і на дзяржаўную дапамогу і мусім трэбаваць яе, але *не як ласку, а як права.* Аднак, ня мусім забывацца на будучыню. Будзем тварыць каапэратывы, будзем самі сабе дапамагаць.

*Каапэратывы — вось адказ на воўчыя сьлёзы паноў рэгіяналістаў*!

## Дзень „7 кастрычніка“--у Аўстрыі...

### (Ці будзе фашыстаўскі пераварот у Аўстрыі)?

I.

Падыйшла фатальная дата 7 верасьня, калі ўся Аўстрыя, падзяліўшыся на сьмяротна варожыя дзьве, амаль ня роўныя, калі не па вялічыне, дык па сіле, паловы, з стрыманым дыхам чакае ўзрыву накапіўшыхся сацыяльна-выбуховых матэрыялаў у краі.

Факты, датычучыя з'ездаў—фашыстаўскага „Гэйматс-вэру“, з аднаго боку, і — сацыялістычнага „Шутцбунду“, з другога — усім ведамы. Ня гледзячы на тое, што ў апошнія дні быццам неяк удалося „залагодзіць палажэньне“, трывога ў краі ня спыняецца. Сацыялісты рашуча заявілі, што, калі ня будзе побач з забаронай іх зьезду— таксама забаронены і зьезд „Гэйматс-вэру“, яны ня прызнаюць аднабокага загаду ўладаў і зьбяруць свае баёўкі ў Вінэр-Нэйштадт — для абароны мясцовых работнікаў, а таксама—ад магчымых далейшых „ваенных авантураў“ з боку павадыроў аўстрыяцкага фашызму... Пасьля гэтага дэмакратычная прэса пачала біць на алярм, націскаючы на ўрад, каб не дапусьціў да праліцьця крыві. Найпаважнейшая з венскіх газэтаў „Нэйе Фрэйе Прэсэ“ зьвярнулася і да павадыроў „Гэйматс-вэру“, каб „не перацягвалі струны“...

Газэта падала вестку, быццам урад кс. Зэйпля, зразумеўшы небясьпеку, мае забараніць таксама і кангрэс проці-сацыялістычных баёвак. Таксама газэта „Гадзіна“, блізкая да Ўраду, паведаміла, быццам прэм'ер націскае на павадыроў „Гэйматс-вэру“, каб яны самі адмовіліся ад плянаванага кангрэсу, забараніць які „ўрад ня мае права на падставе Канстытуцыі“... (мае права толькі— забараніць кангрэс работнікаў!..). Карэспандэнцыі з Вены тлумачыць такі паварот аўстрыяцкага ўраду і буржуазных колаў цэлым сьцягам новых фактаў, меркаваньняў і страхам, з другога боку...

Гэтыя факты і меркаваньні—вельмі цікаўныя.

Перадусім—у апошні мамэнт высьветлілася, як піша „хрысьціянска-сацыялістычная“ прэса, быццам у лоне самых фашыстаўскіх баёвак—ня ўсё у парадку... — Быццам яны настолькі „атручаны камуністычнай агітацыяй“, што—„даваць ім цалком ня можна“.—Могуць здарыцца ў рашучы мамэнт такія неспадзеванкі, якія могуць нарабіць горшых рэчаў, як—сам пануючы ў краі сацыялізм, для „канчальнага здушэньня“ якога, як пабачым далей, распачата ўся гэта авантура з зьездам „Гэйматс-вэру“...

Другі факт стаіць у цесным зьвязку з папярэднім, які зьмяніў баявы настрой фашыстаў і рашучае становішча дапамагаўшага ім ураду, гэта—усіленьне ўплыву ўмераных кірункаў у буржуазным лягеры, а іменна ўплывы — хрысьціянска-сацыялістычнай партыі, якая быццам не жадае ўжо больш „канчальнага здушэньня“ і „зьніштажэньня“ сацыялістаў... Пэўне-ж — перастрашаныя фантастычнай пагрозай „паразуменьня фашыстаў з камуністамі“ (?), гэтыя ўмераныя колы буржуазіі лепш жадаюць захаваць тое, што есьць, чым пускацца ў няведамую авантуру...

Не апошнюю ролю, як сказана, адыграла ў „адбою“ з боку ўраду і гэтых умераных колаў—і рашучае становішча сацыялістаў і вялізарнае абурэньне ўсяе работніцкай клясы ў краі.

Апошнім ударам па баявому самапачуцьцю фашыстаўскіх колаў зьявілася пагроза сацыялістычнага „Шутцбунду“—зрабіць „дывэрсыю“ на галоўную крэпасьць „Гэйматс-вэру“—м. Леобэн—у той самы час, калі ў Вінэр-Нэйштадце будзе адбывацца кангрэс фашыстаў...

---

Іншыя весткі з Аўстрыі кажуць, што паразуменьне будзе асягнута іншым шляхам. Быццам, у апошні мамэнт начальнік Ніжняй Аўстрыі, да якога сацыялісты ўнясьлі скаргу на забарону іх зьезду цэнтральным урадам, згадзіўся адмяніць забарону, але — з тым, каб места Вінэр-Нэйштадт фашысты і сацыялісты падзялілі паміж сабой „дэмаркацыйнай лініяй“ так, каб на адным боку яе, у аднэй палове места рабілі свой кангрэс ды панавалі сабе ў месьце сацыялісты, на другой—фашысты. Сацыялісты сьпярша рашуча адкінулі гэты варунак прэм'ера Ніжняй Аўстрыі п. Бурэша. Але 4. Х. меў сабрацца цэнтральны камітэт партыі, каб апрацаваць якое кампрамісное рашэньне ў паразуменьні з пр. Бурэшам. Урадавыя колы думаюць, што кампраміс удасцца наладзіць, і абодва зьезды адбудуцца 7 кастрычніка ў поўным парадку...

З свайго боку, сацыялісты робяць усё, каб ухіліцца ў часе кангрэсу ад усялякіх сутычак з фашыстамі: у такім духу выдана партыяй адозва да ўсіх работнікаў, надрукаваная ў „Работніцкай Газэце“ ў Вене. Наадварот, камуністычны „Чырвоны Сьцяг“ надрукаваў адозву, заклікаючую работнікаў да заняцьця ўсіх вагзалаў у Вінэр-Нэйштадце, каб не дапусьціць прыезду ў места фашыстаўскіх баёвак.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя „супакойваючыя“ факты, аўстрыяцкая апінія, зразумела, ня можа супакоіцца. Асабліва сацыялістычныя і лева-дэмакратычныя колы ня могуць зразумець залішне „карэктнага“—адносна фашыстаўскай пагрозы — паступаньня ўраду, які — шчыра ці няшчыра — „не спадзяецца ніякай небясьпекі ў дні 7 кастр.“. Калі, як піша гэтая прэса, „у невялікім месьце, у адлежнасьці 2-х гадзінаў язды ад сталіцы—спаткаюцца адна з аднэй азброеныя да зубоў сьмяротна варожыя арміі сацыялістаў і фашыстаў-нацыяналістаў“... „Ці дапаможа тутака да ўтрыманьня міру і парадку нейкая гэамэтрычная „дэмаркацыйная лінія“, дзелючая гэтыя арміі... Ці можна будзе папярэдзіць якую шалёную правакацыю—у варунках, якія, здаецца, умысна створаны для правакаваньня нейкіх далёка-сягаючых пляваў і здарэньняў...

Праўда, урад Ніжняй Аўстрыі „прыняў меры“—для аховы парадку і міру.—У места зьезду і навакол яго нагнана шмат паліцыі дый сьцягнуты значныя атрады войска. Характэрна, што „прыязны“ да аўстрыйскага ўраду баварскі (паўманархічны — паўфашыстаўскі) ўрад выставіў на граніцы Аўстрыі „на-гатове“ 500-ны атрад сваей паліцыі—на выпадак суседзкага алярму ў Аўстрыі...

Усё гэта, а перадусім — упорнае нежаданьне ўраду найпрасьцейшым спосабам спыніць небясьпеку—забаронай кангрэсу фашыстаў—выклікае вялізарную трывогу і хваляваньне ў насяленьні краю... Як на вісячую ў паветры небясьпеку, указваюць некалькі здарыўшыхся ўжо сутычак паміж сацыялістамі і „гэйматс-вэраўцамі“ — напярэдадні кангрэсаў. Страшэнна падлівае масла ў вагонь няспыняючаяся вострая палеміка паміж органамі абодвух лягераў, якія робяць усьцяж узаемна рэвэляцыі адносна вялікіх масаў усялякага аружжа, якімі распалагае праціўнік... Усё гэта, як кажуць тэлеграмы з Аўстрыі, робіць у краі ўражаньне „ваеннага лягеру перад боем“...

II.

Цяпер пабачым яшчэ раз — паводле апошніх рэвэляцыяў у аўстрыяцкай прэсе, чым выкліканы гэты зьезд „Гэйматс-вэру“, які давеў ужо да такога „ваеннага“ хваляваньня ў краі.

Як ведама, работніцкія арганізацыі — у пэўным паразуменьні ўмераных і радыкальных кірункаў — здолелі зрабіць вялізарныя пасьпехі і заваяваньні ўлады ў краі, прынамсь улады ў мястовых самаўрадах.

Амаль ня ўсе месты краю, пачынаючы ад яго сталіцы, знаходзяцца ў руках сацыялістаў. Гэта, зразумела, страшэнна раздражняе буржуазію, — бо-ж работнікі, кіраваныя сацыялістамі розных адценкаў, ведама-ж, — ня трацяць часу намарна, але робяць усё, што толькі здолеюць для далейшага ўмацаваньня сваіх пазіцыяў і падняцьця дабрабыту працоўных — коштам тых прывілеяў, якія дагэтуль мела буржуазія ў местах, дый мае амаль не паўсюдых на сьвеце...

Такое палажэньне ў Аўстрыі—пры тэй, як кажуць, „стабілізацыі буржуазнага рэжыму“ паўсюдых навакол Аўстрыі, асабліва-ж— у суседніх Баварыі і Вэнгрыі — „зьяўляецца, кажа буржуазная прэса ў Вене,—недарэчным“. Сацыялістычныя самаўрады і наагул работніцкая арганізацыя зьяўляюцца другой уладай у краі... А гэткае палажэньне — трэба спыніць усімі мерамі, як „пагражаючае існаваньню дзяржавы“... Дзеля барацьбы з умацаваўшыміся ў местах работнікамі, буржуазія ўвайшла ў саюз з найцямнейшымі элемэнтамі аўстрыяцкай вёскі, апанаванымі клерыкаламі,—такім чынам нарадзілася, арганізавалася і ўзрасла сіла фашызму ў Аўстрыі. Ясна, што аўстрыяцкі ўрад, з „сялянска“-клерыкальных партыяў усьцяж дапамагае гэтай акцыі проці сацыялістаў, якія ў парляманьце ствараюць ядро апазіцыі, а ў местах — канкурэнцыю ўрадавай уладзе.

Але, дапамогшы ствараньню фашыстаўскіх арганізацыяў — у мэтах „зраўнаважаньня“ сілы сацыялістаў дый украпленьня та-

кім спосабам сваей сілы ў цэнтры — „умераны“ ўрад кс. Зэйпля хутка пабачыў, што аўстрыяцкі фашызм перарос тую меру, якую для яго азначыў урад... Гэтая новастворaная перагрупіроўка сілаў у краі высьветлілася асабліва ярка, калі ў парляманьце стала на чаргу дня справа „павароту поўных правоў дама-уласьнікаў на іх маемасьці“, ці — праект спыненьня закону аб ахове кватэрантаў. Гэты чарговы этап барацьбы буржуазіі з працоўнымі клясамі насяленьня места і паслужыў зачэпкай для распачацьця гэнаральнага наступу буржуазіі па ўсей лініі на „работніцкае панаваньне“ ў Аўстрыі.

Адзін з павадыроў падрыхтаванай ужо да бою фашыстаўскай баёўкі „Гэйматс-вэру“ пасол Штэйдэль заявіў адкрыта, што „калі сацыялісты ня спыняць у парляманьце сваей абструкцыі (тактыкі перашкоды з боку меншасьці), тады — „прыдзецца сілай разагнаць парлямант“... Зразумела, што — калі-б фашысты (буйнейшая буржуазія) захапілі ўладу ў краі, дык ад ураду ўмераных групаў кс. Зэйпля не асталося-б ніякага сьледу.

Як ведама, урад Зэйпля — мае сваю апору і ў багацейшым сялянстве, дый таксяк „прадстаўляе“ і „бароніць“ яго інтарэсы... Такім чынам—у краі, як і дзеінш, ідзе ўсьцяж клясавая барацьба паміж работнікамі, буржуазіяй і багацейшым сялянствам; барацьба, якой у апошні час умацаваўшаяся, як і ўсюдых на сьвеце, буйнейшая буржуазія (і абшарніцтва) імкнецца яўна надаць характар гэнаральнага бою, каб адным махам разьбіць тыя „сацыяльныя здабыцьці“, якія далі работнікам і сялянам павaенныя часы. Характэрныя рэвэляцыі робяць у гэтым напрамку буржуазныя органы прэсы ў Аўстрыі.

„У Аўстрыі, піша карэспандэнт „Кур. Варш.“, існуе цэлы сьцяг палітыкаў і вучоных (ведама-ж—буржуазных), якія бачаць... няшчасьце Аўстрыі ў тым, што ў ёй... ня было такой бальшавіцкай рэвалюцыі, як у Вэнгрыі ці Баварыі“... Тамака, кажуць яны шчыра, — уся **„сацыялістычная хвароба вышла на паверхню і была вылечана грунтоўна радыкальна адразу“**... У Аўстрыі — наадварот — **„хвароба“ ўвайшла ўнутр.** „Бальшавізм астаўся ў скрытым відзе ў работніцкай клясе а гэта—ў сто разоў горшая рэч, як часовае панаваньне Бэля-Куна ці Эйснэра“!... „У Вэнгрыі і Баварыі контр-рэвалюцыя расправілася цалком з яўнымі ворагамі сацыяльнага ладу, а ў Аўстрыі той самы бальшавізм схаваўся за крывадушнай тактыкай легальнай барацьбы ў сацыялістаў. **Дык ясна, што з гэтай яго „крыёўкі“ трудна яго выцягнуць „у поле“ нармальнымі спосабамі канстытуцыйнай барацьбы“**... Асабліва-ж дзеля таго, што б. радыкальны аўстрыяцкі „марксызм“ („аўстра-марксызм“) здабыў сабе аднак жа вялізарнае поле для дзеяльнасьці, на якім легальна б‘е буржуазію, сягаючы на яе „сьвятыню прыватнай уласнасьці па ўсей лініі“... Падумайце-ж толькі, галосяць гэтыя венскія „сацыялёгі“ буржуазіі, — у часы, калі паўсюдых на сьвеце ўласьнікі, а перадусім — дамаўласьнікі даўно ўжо адбудавалі цалком сваі „сьвятыя правы“ на свае маемасьці, у Аўстрыі — дзякуючы работніцкім арганізацыям і самаўрадам—існуюць яшчэ ўсялякія „бальшавіцка-сацыялістычныя“ абмяжаваньні і забароны, якія — „руйнуюць гаспадарчае разьвіцьце краю“...

„З гэтым бальшавізмам трэба пакончыць раз назаўсёды — адным махам“. Вось на якім груньце распачата акцыя, якой першы акт мае разыграцца на зьезьдзе Гэйматс-вэру ў Вінэр-Нэйштадце 7 кастрычніка...

Аўстрыяцкія фашысты яўна хочуць справакаваць выступленьне работнікаў і зрабіць у Вінэр-Нэйштадце тое, чаго не ўдалося зрабіць ураду пасьля венскага паўстаньня работнікаў у 1927 годзе — раздушыць іх арганізацыі.

Пасьля першага акту, у Вінэр-Нэйштадце, мае наступіць акт другі — у Вене, куды Гэйматс-вэр мае зрабіць „фашыстаўскі марш“, — дзеля здабычы сталіцы і ўлады ў краі — шляхам пераваpоту!...

Але, здаецца, павадыры аўстрыяцкага фашызму залішне раскрылі карты. Пасьля заявы пасла Штэйдля — аб няўхільным разгоне парляманту — абедзьве ўрадавыя партыі — „хрысьціянска-сацыяльная“ і „сялянская“ — заявілі пратэст і сваі засьцярогі. Цяпер іх прэса ўсьцяж высьвятляе ўсе небясьпекі ад залішняга ўсіленьня ў „Гэйматс-вэры“ фашыстаўскіх элемэнтаў, — коштам сялянскіх, — „хрысьціянскіх“... Ці аўстрыяцкае багацейшае сялянства запраўды-ж да канца зразумее небясьпеку фашызму і зробіць усе патрэбныя вывады? Гэта—сумліўна. Пакуль што ўрад хітрага ксяндза-дыплёмата круціцца на абодва бакі, жадаючы, можа, адначасна аслабленьня абодвух крайніх флангаў... Але здарэньні могуць — пры гэткай яго тактыцы — пайсьці сваім фатальным ходам і—кінуць край у вагонь хатняй вайны... А гэта, зразумела, апроч ведамых скуткаў унутры краю, можа яшчэ ў дадатак рубам паставіць справу міжнароднага палажэньня Аўстрыі...

—.—

Пры такіх абставінах навет мірны канец дня 7 кастрычніка зусім не азначае зьліквідаваньня небясьпекі фашыстаўскага замаху і хатняй вайны ў Аўстрыі.

**Ад Рэдакцыі.** Разам з гэтым артыкулам да рэдакцыі надышлі весткі, што дзень 7-га кастрычніка, у Аўстрыі прайшоў „спакойна“, толькі 200 камуністаў апынуліся за кратамі. З боку фашыстаў у дэманстрацыі брало ўчасьця каля 10.000 асобаў, а з боку работнікаў — 40.000. Спакой у Аўстрыі абязаны сацыял-угодзе, якая пайшла на ўсе ўступкі фашызму.

# Аб канстытуцыі.

Ад доўгага ўжо часу ўся прэса ў Польшчы, асабліва г. зв. санацыйная, поўна гутарак аб зьмене канстытуцыі, а даўжэй яшчэ трывае гарачкавая праца ўрадавых і паўурадавых кругоў аб „праектах“ тэй-жа зьмены.

Спатыкаючы заўсёды і ўсюды гутаркі толькі аб „патрэбах“ і „праектах“ зьмены — здавалася-б, што да самай зьмены яшчэ далёка,—што яна настане ня толькі дзякуючы пануючай клясе, маючай у сваіх руках уладу, але і пры ўдзеле шырокіх працоўных масаў, праз галасы сваіх прадстаўнікоў-паслоў у польскім Сойме.

Аднак, запраўды справа стаіць зусім інакш. „Панам палажэньня“, чым яны і надалей думаюць астацца,—ходзіць не аб тое, **як зьмяніць** канстытуцыю,—што з ею зроблена ўжо даўно,—а ім ходзіць аб тым, каб тое, што ўжо фактычна выканана ў гэтай справе, запісаць як небудзь „палітычна“ і ў самую канстытуцыю, дадаючы да гэтага яшчэ дзе-якія папраўкі, як параграфы аб выбарах прэзыдэнта і Сойму. І ўся гэтая справа „зьмены“ мае стаць у Сойме на яго васеньняй сэсіі, да чаго ўрад і яго соймавая „брыгада“—адзінка, на-гвалт гатуюць праект, які мае быць пададзены Сойму дзеля ўхваленьня. Але і з праектамі нешта йдзе вельмі туга! На жніўнявым паседжаньні соймавага клюбу адзінкі ў гэтай справе, заместа 1-2 праектаў зьявілася аж 11! І вось „бедныя“ адзінкары аж тры дні і тры ночы марочыліся і грызьліся над гэтымі праектамі, які з іх узяць за аснову да дыскусіі і, хто ведае, да чаго-б яны тут дайшлі, калі-б ня прышоў загад „з гуры“, узяць за аснову да дыскусіі праект віцэ-міністра справядлівасьці Цара і праф. Явароўскага (як урадавыя), а рэшту адкінуць. Гэтым і кончылася гэтая нарада, адлажэньнем яе на верасень, г. з., пакуль „квартэт“ больш згарманізуецца...

Цікава, ці „згарманізуецца“ з імі і Сойм дабравольна, ці па загаду „з гуры“.

Але ні гэтыя зьмены канстытуцыі, ні іншыя яе камбінацыі, узаконены пры помачы рабскага падпарадкаваньня буржуазіі сацыял-угадоўцаў ня ўстрымаюць вызвольнага руху шырокіх працоўных гушчаў, сьвядомасьць клясавай барацьбы якіх ад гэтага ня падае, а, наадварот, пашыраецца. Шырокія працоўныя масы Польшчы змогуць добра ацаніць самі маючыя адбыцца „зьмены“, бо фактычна ў жыцьці яны ўжо праводзяцца.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Паварот марш. Пілсудскага.

4 г. м. вярнуўся ў Польшчу м. Пілсудскі, які, як ведама, быў у Румыніі на летніх „фэрыях“ (адпачынку). На колькі гэтыя „фэрыі“ былі праўдзівым адпачынкам ад палітычнай працы, трудна сказаць, бо загранічная прэса цьвярдзіць, што гэта было дзеля мацнейшага ваеннага „збліжэньня“ Польшчы з Румыніяй.

### З польскага гандлю з Радавым Саюзам.

У жніўні г. г. у Польшчу вывезена з Радавага Саюзу 1682 вагоны тавару, галоўнае, жалезнай руды, між іншым, 18 вагонаў галёшаў з Ленінградзкай фабрыкі.

З Польшчы ў Радавы Саюз вывезена ў гэтым-жа месяцы 226 вагонаў тавару, у тым ліку 159 вагонаў цынку, жалеза і бляхі.

### У Лодзі ізноў бастуюць.

Згодна з інфармацыямі прэсы, 4 г. кастрычніка ў лодзкім валакняным промысьле ізноў выбухла забастоўка, ахапіўшая за адзін дзень у самай Лодзі больш 70 тысяч работнікаў. Апрача Лодзі, забастоўка пашырылася на Пабіяніцы, Здунскую Волю, Пабіянскую Руду і іншыя гарады.

Прычына забастоўкі—не памысны вынік канфэрэнцыі работніцкіх прадстаўнікоў у М-ве Працы ў Варшаве ў справе падбаўкі платы.

Таго-ж самага дня ў справе гэтай забастоўкі прэм‘ер Бартэль адбыў канфэрэнцыю з міністрам працы Юркевічам, на якой пастаноўлена заклікаць на канфэрэнцыю ў Раду Міністраў прадстаўнікоў-прамыслоўцаў.

Трэба спадзявацца, што цяпер работнікі даб‘юцца жаданай падбаўкі платы.

### Пагроза яшчэ адной вялізнай забастоўкі.

Прэса інфармуе, што цэнтральны камітэт вуглякопаў Дамброўскага і Кракаўскага басэйну („Заглэмбя“), зажадалі ад прамыслоўцаў падбаўкі платы, якая прызнана вуглякопам Верхняга Сьлёнску. На гэтыя жаданьні прамыслоўцы адказалі згодай толькі на 35 прац. падбаўкі, якую работнікі адкінулі, заяўляючы пры гэтым, што астаюцца пры сваім жаданьні — прызнаньні ім падбаўкі прынамсі такой, як і на В. Сьлёнску.

Адказам на панскую падбаўку—35 прац. зьявілася пастанова цэнтральнага саюзу работнікаў заклікаць вуглякопаў кракаўскага і дамброўскага басэйну да забастоўкі, тэрмін пачатку якой будзе вызначаны цэнтральным саюзам гарнякоў.

### Італьянская забастоўка ў чыгуначных варстатах.

Надовячы ў чыгуначных (kolejowych) варстатах Варшава-Прага было зрэдукавана 50 варстатных работнікаў і, апрача гэтага, абвешчана, што 15 г. м. будзе зрэдукавана яшчэ 90 работнікаў. Работнікі склікалі дарэзную масоўку, на якой пастаноўлена абвясьціць італьянскую забастоўку (прыйсьці на работу, але не працаваць), да якой адразу і прыступілі.

### Алярмуючая сялянская забастоўка.

65 нумар украінскай часопісі „Сель-Роб“ падае наступную вестку аб сялянскай забастоўцы.

„Забастоўка ў Дзебах, Раўскага павету, трывае ўжо 5 тыдняў і абхапіла ўсе акалічныя сёлы. Абшарнік справадзіў „ламістрайкаў“. Яны пры першай дэманстрацыі далучыліся да бастуючых, аднак, за намоваю паліцыі і пад яе абаронай ізноў выехалі з плугамі ў поле.

Калі на палях зьявілася бастуючая сялянская маса, паліцыя і страйкаломы на конях кінуліся на спакойных сялян. Завязалася бойка. З абодвых бакоў 11 цяжка раненых. У сяле вынятковае становішча. Забастовачны камітэт выдаў да ўсіх працоўных адозву, у якой выясьняе, за што змагаюцца бастуючыя і заклікае іх выдзяржаць у барацьбе за свае дамаганьні.

### З сялянскага прафсаюзнага руху.

Вызыск сялянскае беднаты „панамі“-абшарнікамі цяпер усюды проста нячуваны, асабліва ў Зах. Беларусі, дзе няма сялянскіх праф. саюзаў. Насколькі гэтыя прафэсіянальныя саюзы патрэбны, паказвае тое, што дзе яны паўстаюць, адразу яны шляхам законных забастовак паляпшаюць умовы жыцьця. Напр. да гэтага часу, калі на Украіне ня было сялянскіх праф. саюзаў, сяляне касілі „панскую“ атаву на пятую частку (4 пану 5-ая капа сабе). У гэтым-жа годзе з‘арганізаваныя ў прафсаюз сяляне Пацячычаў правялі забастоўку і дабіліся ею таго, што косяць атаву на палову, або трацяк. („Сель-Роб“ № 62-63).

Трэба, каб працоўныя беларускія сялянскія гушчы, як жывучыя ў вёсках і быццам

# Як паны павесілі сялянскую кабылу.

**Факт падобны да байкі.**

**(Фэльетон).**

(Браслаўшчына).

Прачытаўшы загаловак, мусіць, вельмі чытачы, зьдзівіцеся—як-жа гэта маглі павесіць кабылу? — Скарэй паверылі-б, каб напісаў, што селяніна якога падстрэлілі, застрэлілі, пабілі, у суд падалі і г. д. Падумаеце—брэша, не дасьце веры. Аднак праўда, браткі, далібог праўда—павесілі!

Укажу Вам навет і мейсца, дзе такі выпадак здарыўся.

Гэтая асаблівая, і дасюль яшчэ ня чуваная, экзэкуцыя адбылася на днях у маёнтку Бяльмо (не на воку, а проці неба на зямлі) Браслаўскай гміны.

Пана я ў гэтым ня надта віную, бо-ж, бачыце, тая жывёлінка-кабылка гэтага была і варта — заслужыла на такую ганебную сьмертухну. Так ёй і трэба — хай ня лезе на панскую сенажаць! Адпрог яе, бачыце, гаспадар — М. Пальчэўскі і пусьціў, ня спутаўшы, на поле папасьвіцца. Кабылка ад цёмнага працавала—галодная. Хадзіла, хадзіла па сялянскай талоцы—нічога няма, ляскае толькі зубамі напрасна, а ў зуб і нечага і, як на той грэх, падыйшла да панскай граніцы.

Відзіць, на тым баку атаўка зялёная, вялікая. Пацякла сьліна ў яе, спакусілася, падла і — скок, праз роў на панскае поле. (Калючым дротам загароджана ня было). Скубе траву, аж сапіць кабыла! Як на тую гібель — няшчасьце, у гэты час абходзіў поле пан упраўляючы Гіра. Прозьвішча яго, як бачыце, тутэйшае, папольску было-б Ценжар, але... вядома спалячэўшы вырадак — па-тутэйшаму ані зюк!

Кажуць, што былы шляхцюк, але прапіў свой фальварак, заматаўся ў даўгі, дык цяпер і адслужвае адзін з іх ў тутэйшай б. графіні. Нялоўка было „шляхотнага“ чалавека садзіць у вастрог, дык, знача, далі яму „працу“. Хоць і за доўг, але працуе, падла, шчыра, лепш як другі за жывыя грошыкі.

Дык, знача, убачаў гэты самы пан Гіра кабылку на панскім полі і аж зубамі заскрыгатаў са злосьці.

— А, пся крэў! Лонкі дратаваць!

Я табе пакажу дзе ракі зімуюць! — Бяжыць, вочы вылуўіўшы — як схопіць кабылу за грыву, але тая ня дурак паддавацца. Адляціцца ад пана і ізноў скубе траву. Лётаў, лётаў за ёй ззаду п. Гіра, ажна лоб мокры стаў, засапаўся, як кавалёў мех, а кабылы ня можна злавіць, хоць ты лопні!

— Чэкай холера, я табе не дарую! Папёрся ў м. па вяроўку—надумаў пятлёй злавіць. Ен у гэтым спэцыялісты, бо-ж, бачыце, яго дзед служыў калісь у нейкага там Радзівіла сабакаром і надта спрытна ўмеў лавіць „жывёлу“ на пятлю, а гэта здольнасьць, так сказаць, спадчына перайшла і да ўнучка.

Махнуў пан раз — не папаў, другі прамахнуўся, а за трэцім такі якраз пятля на шыю лучыла.—Дзякуй богу! Я-ж табе, хамская ты парода, пакажу, як у панскія пожні лазіць!

Адсьцябаў бізуном і цягне за вяроўку ў хлеў. Кабылка баіцца, упіраецца, але нічога не парадзіш: гэтакі вол цягне ўпёршыся, палажыўшы вяроўку цераз плячо, душыць за горла — нехаця мусіць йсьці. Прывёў, прывязаў за вялікі такі гак, замальдаваў надупраўляючаму (ёсьць і гэтакі) аб гэтай „здабычы“ і пайшоў ізноў на „паляваньне“.

Стаіць кабылка, пазірае на панскія аборы, аблізваецца пасьля такой смачнай закускі. І нічога, мусіць, дрэннага ня было-б здарыўшыся, каб нялёгкая не ўзагнала паноў. Так была-б і стаяўшы спакойна кабылка.

Як на тую бяду, відзіць яна, што ідзе за падручку пара:—ён—высокі, даўганосы з бізуном у руцэ, яна—у капялюшу, на руках белыя пальчаткі, хахочаць, круціцца, пазірае даўганосаму ў вочы.

— Добрыя, мусіць людзі—думае кабылка. Зайшлі ў абору, ды як закрычэлі там, ажна кабылка затраслася ад страху.

Выскачыў адтуль парабак, чырвоны, як рак і чагось маланкай паляцеў праз дзядзінец.

— Вось табе — думае кабыла — і добрыя! — Са страху яна і ў той бок баялася глядзець, дык і не заўважыла, што там было далей. Чуе толькі падыходзяць да яе.

— Цо то за шкапа? — пытае пані.

— То хлопска, забрана з лонкі — тлумачыць даўганосы.

— Не даён жыця, не даён жыця тэ хлопы! І поцо оні жыён на сьвеце тэ быдлякі! Тылько шкоду робяць добрым людзям! — лемантавала пані, а даўгавязы, як урэжа са злосьці валавіком па кабыле, аж у той рубец падняўся ўдоўжкі рэбраў. Рванулася, бедная, ня можа ўцячы — душыць за горла. Толькі адыйшлася гэта пара, сыпе нейкі стары сівы і таксама з бізуном у руцэ. Стаў сярод падворка, ды як крыкне: —

— Служба, до мне! —

Выскачылі з усіх куткоў сутулыя, абадраныя людчыкі і сталі ў-ва фронт. Стаяць і вокам ня міргнуць! А сівы расхаджвае перад імі ды ўсё нешта бае, махаючы бізуном, то аднаму, то другому пад нос, нераўнуючы, як царскі палкоўнік даўней. Пасьля скамандаваў ім штось і яны хто куды — бягом да працы!

— Строгі чорт—думае кабыла — гыркае на людзей, каб на яго сто ваўкоў гыркала!

Аглядаецца, баіцца, каб чаго добрага, не падыйшоў гэты сівы да яе.

Аж так і ёсьць, відзіць — ідзе! Агарнуў яе страх, забылася і пра пятлю на шыі, як рванулася ўцякаць з усіх чатырох, аж вяроўка ўелася ў горла.

Пацямнела кабыле ў вачох, брынк, аб зямлю і завесілася на круку. Вядома, у маёнтку вяроўкі новыя, моцныя, дык і ня лопнула — вісіць кабыла.

Сівы ў гвалт, крычыць, заве на ратунак работнікаў, але тыя, думаючы, што падганяе да працы, ня туды таго — ня йдуць.

Пакуль тое-сёе, дык кабыле і душ... (перапрашаю) і дух вон.

Што рабіць? паслаў стары за п. Гірай—хай — кажа — і зьнімае, калі павесіў! —

Прыляцеў Гіра, сазваў работнікаў, тузаюць кабылу, тузаюць, а зьняць з крука ня могуць. Так і прышлося папсаваць—перарэзаць вяроўку.

Прыказаў упраўляючы людзям маўчаць аб гэтым і скарэй папёрлі падлу ў бор, — закапалі і сьляды зацёрлі.

Шукаў, шукаў Пальчэўскі сваёй кабылы і туды, і сюды, і сваё і панскае поле аблётаў—няма. Пытае ў людзей: ці ня відзелі.

— Пацягнуў — кажуць—пан у двор.—

Ен да пана. — Даруй панок на гэты раз — аддай кабылу!

— Няма — кажа — была, але адарвалася і ўцякла да вёскі. —

Пайшоў, бядак, ізноў шукаць ветра ў полі і, мусіць, доўга шукаўбы, але, дай бог здароў‘я, пашкадаваў яго адзін парабак.

Павесілі тваю кабылу — кажа. — У бары знойдзеш! —

Селянін багаты на дзяцей (7 душ), а зямлі ўсяго дзьве дзесяціны мае.

— Прапаў цяпер без каня! — думае. Заплакаў й ідзе да ўпраўляючага.

— Панок, кажуць, вы маю кабылку павесілі! Як-жа цяпер будзе? —

— А цо будзе! Халера! Трэба было ня пушчаць на панскае! Калі хочаш, дам 70 залатовак! —

— А што-ж я за іх куплю, авечку? Яна-ж чатырaста была варта! —

— Як ня хочаш, то ідзь до д‘ябла! Ніц не дам — судзіся сабе! —

Заявіў Пальчэўскі на пастарунак і пакуль суд—справа, а яму, бедаку, цягай снапы на карку — няма на кім працаваць.

Кажуць, што паны вядуць цяпер сьледзтва, каб выкрыць таго, які здрадзіў таямніцу і зьбіраюцца яго цяжка пакараць.

Апавядаюць, што ахрэмаўскія коні, пасьля гэтага павешаньня, страшэнна сталі баяцца паноў. Як заўважаць каторага, дык за паўвярсты ўцякаюць, зьбіраюцца ў грам... (перапрашаю: гэтак ня можна называць) у табун, дзяруць капытамі зямлю, ржуць, быццам пачуўшы стада ваўкоў.

Калі ня верыце мне, дык запытайце сабе ў Ахрэмаўскіх суседзяў Пальчэўскага, тыя пасьведчаць, што гэта праўда.

**Янка-Пятрок.**

